## Усякая ўсячына

### АЛКАГОЛЬ ЗАМЕСТ ВАДЫ

Некалькі дзён жыхарам Франкльтона (ЗША) не трэба было ісці ў шынок. Гарэлка лілася проста з воднай інсталяцыі, замест вады. Прычына была ў тым, што паліцыя, выкрыўшы нелегальную фабрыку спірту, знішчыла некалькі сот гекталітраў спірту, выліваючы яго ў ручай. Аказалася, што ручай сцякаў у басейн, з якога дастаўлялася вада ўсяму гораду. Гавораць, што быццам ужыццё вады ў гэты час было значна большае, чым заўсёды.

### КАЛЕКЦЫЯ НУДНЫХ КНІЖАК

Бэн'яміна Рывэрта з Рыо-дэ-Жанейра мае арыгінальную калекцыю. Ён збірае нудныя кніжкі. Яго калекцыя лічыць ужо звыш 7.000 тамоў. Гэтая калекцыя дастаўляе яму нямала клопатаў. Напрыклад, нядаўна адзін з вядомых літаратараў, даведаўшыся, што аж адзінаццаць тамоў яго трапілі ў гэту калекцыю, выклікаў калекцыянера на дуэль, а калі гэты выклік не прыняў, заскаржыў яго ў суд.

### МЯРЦВЯК, ЯКІ СМЯЕЦЦА

Злачынца, якога лавіла паліцыя ў Рывэрсайдзе (ЗША) схаваўся ў кастніцы, лёг паміж памерцымі і прытварыўся мерцвяком. Каб адрозніць яго ад мерцвякоў, паліцыя вымушана была асвечваць кожнага і ашчупваць рукамі. Калі прышла чарга да злачынцы, ён не вытрымаў і голасна рассмяяўся.






ДАГАНЯЕ!

## Строгае права, але права

Нядаўна ў адным з англійскіх урадаў цывільнага стану паміж ураднікам і адным з «маладых», якія прышлі ўзяць шлюб, адбыўся гэткі дыялаг:

Ураднік: «Колькі вам год?»

Нявеста: «Скончыла 82».

Ураднік: «Пакажыце вашу метрыку нараджэння».

Нявеста: «Нажаль, я яе не маю».

Ураднік: «Вы не можаце атрымаць шлюб, бо не маеце доказу, што вы дасягнулі прадугледжанага правам веку».

Англійскае права гаворыць, што нявеста павінна мець не менш 18 год.

## Падказала

Трахім без патэнту шыў кажухі.

Аднойчы праз акно ён заўважыў міліцыянера, які накіраваўся на яго панадворак. Спалохаўшыся, Трахім кінуў працу і пачаў хаваць шкуры. Пакуль міліцыянер быў на дварэ, Трахіму ўдалося ўсё схаваць.

Маленькая Марыська весела скакала перад бацькам. Не паспеў незнаёмы адчыніць дзверы, як яна радасна зашчабятала: «Можаце цяпер ужо смела ісці! Тата ўсе шкуры пад печ пахаваў».

(шк)

## Пахваліўся

— Татка, ты не ўяўляеш сабе, які наш настаўнік набожны! Пасля кожнага майго адказу складае рукі, як да малітвы, і паўтарае: «Мой Божа, Мой Божа!»

С. А.

## Духоўнікі і каровы

Духоўнік Пандзім Сіма Рам Кемка пагражае ўнесці крымінальную справу супроць прэм'ера Індыі Нэру — за знявагу рэлігіі. Гэтая знявага заключаецца ў тым, што, прамаўляючы да студэнтаў у Алягабад, Нэру выказаў думку, што ён не лічыць каня горшым за карову. Справа ў тым, што карова ў Індыі лічыцца святой жывёлінай, якую забіваць і есці яе мяса забаронена. У выніку гэтай веры ў Індыі больш кароў, чым у Амерыцы аўтамабіляў, але многія з іх зусім не даюць малака. Зусім бескарысных кароў налічваецца звыш сямі мільёнаў штук. І людзі мусяць іх трымаць, пакуль каровы гэтыя не здохнуць.

## Размова з парабкам

Аднойчы пан выслаў парабка па грошы да даўжніка. Калі парабак вярнуўся, пан пытае:

— Ну, што, аддаў той грошы?

— Не, не аддаў, — адказаў парабак.

— А, што ён сказаў?

— Сказаў — «ідзі к чорту!»

— І што ты на тое?

— Ну, я і прышоў да вас.

С. Д.

## У краме

Аднойчы заходжу я ў краму,
А ў краме вісіць рэклама:
«Курыць не можна»!
Але дзіўна мне вельмі стала,
Бо прадаўшчыца носам дым пускала,
Ці ж гэтак можна? —
Яна ходзіць сабе з папяросам,
Хоць рэклама вісіць пад носам.
А потым, паверце мне, сябры,
Як накурылі гаспадары,
Столькі было дыму ў краме,
Што не згледзілі б вы і рэкламы.
Адно, не было там каўбас —
Падумаў бы хто, што вяндзарня.

Г. КАРЭТКА

Бандары

## Чаму так дорага?

— Так хутка? — уздыхнуў з палёгкай пацыент, калі лекар вырваў яму балючы зуб.

— Як бачыце, — скромна адказаў лекар.

— Дай Божа вам здароў'ечка, — дзякаваў узрадаваны пацыент. А колькі ж плаціць трэба? — запытаў ён, апранаючы паліто.

— 50 злотых, — кажа лекар.

— Ды што вы! Я на 50 злотых патрабую 8 гадзін цяжка працаваць. А вы толькі падкавырнулі і вырвалі. Ці ж гэта варта 50 злотых? Гэта проста гвалт, — абурыўся кліент.

— Добра, — адказаў лекар. — Калі вы другі раз прыдзеце, я вам 8 гадзін буду рваць зуб.

(вб)

## Бацька і сын

— Татка, ці сапраўды, за зло трэба адплачваць дабром?

— Зразумела, што так.

— Ну, дык дай мне на цукеркі, бо я папсаваў твой новы гадзіннік.

## З вудай на рыбу

— Чаму жанчыны не ловяць рыб вудачкай?

— Бо над вадою трэба сядзець ціха і нічога не гаварыць.

Я. Г.

## Дражлівая тэма

Калі я аднойчы прыйшла са школы, міжволі пачула гарачую спрэчку.

— Я не дазволю, — крычала абураная мамка, — каб ты атручваў жыццё нявіннаму дзіцяці.

—Свет цяпер прагрэсіўны, і яна ўжо не дзіця, — гаварыў усхваляваны татка. — Я абавязаны пазнаёміць яе з гэтымі жыццёвымі справамі...

— Не, пакуль я маці, ты не пасмееш...

— Не пасмееш!.. — перабівала яго мамка.

— Пакуль я бацька, дык не дазволю, каб мая дачка гадавалася заскарупелай, адсталай ад жыцця мяшчанкай, — злаваўся татка.

— У чым жа тут справа? — думала я, распранаючыся ў сваім пакойчыку. — Ну, і няхай сабе сварацца. Мне што. Вось трэба лаціну зубрыць. І я, узяўшы падручнік, зручна ўселася на зэдліку. Але неўзабаве ў пакой увайшоў татка.

— Ты, Люська, ужо не маленькая, — распачаў ён урачыстым голасам. — Пайшоў табе шаснаццаты годзік, і ты абавязана ведаць усе жыццёвыя справы.

Я насцярожылася, ды думаю, у які бок татка пачне гнуць ключку.

— Перш за ўсё, — гаварыў далей татка, — ты абавязана ведаць, адкуль бярэцца жыццё. Мамка ўсё табе аб белых бусліках бае, быццам таму пачынаючаму хадзіць дзіцяці. Ты яе, Люська, не слухай. Адсталая яна ў нас. Я вось хачу табе сказаць праўду. Пара ўжо.

— Аб якіх бусліках? — спытала я, нічога не разумеючы.

— Пачакай, не гарачыся, і я табе выкладу ўсё як мае быць. Ну, возьмем, напрыклад, пчол, — гаварыў татка.

— Ага, — думаю сабе ,— ужо вядома, куды татка гне. Пачне тут зараз мне чытаць лекцыю аб працавітасці, аб тым, што я не стараюся ў вучобе.

— Вядома, пчолы вельмі працавітыя стварэнні, — кажу, шырока пазяхаючы.

— Ды не ў гэтым жа сэнс справы, Люська, — кажа татка з мінай пакутніка. — Вось слухай. Пачынаецца вясна. У садах расцвітаюць кветкі. Пчала вылятае з вулля, сядае на кветачку, ды, расхіліўшы лапкамі пялёсткі, засаджвае ў напоўненую нектарам чарачку джала сваё. Выпіўшы ўвесь нектар кветачкі, яна пералятае на другую, адначасова запыльваючы яе гэтым пылком - нектарам. Такім вось чынам, Люська, засноўваецца новае жыццё.

Па меры таго, як татка расказваў, я глядзела на яго ўсё больш падазрона. Ці не мае ён часам гарачкі? — думала я. Мо' гэта пачаткі грыпы? І я не на жарты напужалася.

— Ну, Люська, разумееш цяпер? — спытаў татка.

— Не, татка, не разумею нічагутачкі, — прызналася я па шчырасці. — Ну іх з пчоламі, — кажу. — Лепш ты, татка, напіся гарачага чаю ды ў ложак ляж.

— Не зразумела, — прагаварыў татка, хустачкай выціраючы пот з твару. — А мо' і сапраўды ты не дарасла яшчэ да гэтых спраў? Ну, нічога, Люська, у другі раз мы больш канкрэтна пагаворым на гэтую тэму, — паабяцаў татка і вышаў.

І так мне ў гэты дзень не давялося «падзубрыць» лаціну. Не ў галаве была. Шкада таткі. Мусіць захварэе бедненькі.

Раненька, калі я збіралася ў школу, да мяне ізноў зайшоў татка.

— Ну, Люська, сёння мы пагутарым па душах, як роўны з роўным, — прагаварыў ён з выразам рашучасці на твары.

— Добра, татка, — згадзілася я з радасцю. Мо' і не захварэе ён..

— А ведаеш, Люська, чаму куры зносяць яйкі? — нечакана спытаў ва ўпор татка.

Я міжволі засмяялася. — Мабыць, — кажу, — таму, што яны не пеўні.

— Вось, вось, Люська, — справа тут менавіта ў пеўнях, — падхапіў татка.

— Не слухай, Люсенька, гэтага бессаромніка, — пачуўся раптам з-за дзвярэй голас мамкі.

— Ну вось, ужо па нашай гутарцы. Бывай Люська, — і татка, схапіўшы з вешалкі капялюш, бразнуў моцна дзвярыма і вышаў.

— Аб чым ён табе гаварыў, дзіцятка? — увайшоўшы ў пакой, спытала ўсхваляваная мамка.

— Ды нешта аб яйках, — кажу

— Аб яйках! Аб якіх яйках, дачушка?! — пыталa яна.

— Ды аб якіх жа, — кажу, — аб курыных. Мабыць татка яешні хацеў.

— Што, яешні? — уздыхнула з палёгкай мамка. — Ды ён жа з самай раніцы шэсць галубцоў упёр. Бач ты, яешні яму захацелася! — ізноў узлавалася мамка.

Па лекцыях я сустрэлася з Віцькам. — Бяда, — кажу, — Віцька. Нешта ў нас у хаце нядобра дзеецца. Татка з мамкай каты дзяруць. Крык, шум, вучыцца немагчыма. І завошта? — Сама не ведаю якая ў гэтым прычына.

— Глядзі, — кажа Віцька, — мо' стары недзе на баку ў амуры гуляе.

— Не, — кажу, — гэта немагчыма. Усё пра нейкія буслікі, пчолы ды куры гаворыць. Не магу разабрацца, у чым тут справа. А ў хаце пекла.

— Ну, — кажа Віцька, — дай буські Люсенька, ды пакуль сама разбірайся ў гэтых пчолах і бусліках. Мне няма часу глупствамі займацца. Спяшу на матч.

Ох, і гарачы ж мой Віцька. Агонь — не хлопец. Як жа не кахаць такога?!

Калі я вярнулася, у хаце было незвычайна ціха. Татка сядзеў над газетай і быццам для яго не існавала ўсё акружаючае. Надзьмутая мамка цыравала шкарпэткі. Пасля я даведалася, што яны ў той дзень пастанавілі ўзяць развод.

— Люсенька, скажы вось гэтаму грамадзяніну, — па нейкім часе адазвалася мамка, — што яго чыстыя калісоны ляжаць у шафе на трэцяй палічцы.

Я здзіўлена глянула на мамку.

— На, Люська, пяцьсот злотых, — прагаварыў татка дрыжачым голасам, выцягваючы грошы з кішэні і дай іх вось гэтай грамадзянцы (татка тыцнуў пальцам у бок мамкі) на жыццё.

Тут я ізноў засмяялася на ўвесь рот. Ды гэта ж сапраўдны спектакль. Ну, і мастакі татка з мамкай. Не магу я яшчэ і дагэтуль зразумець, чаго яны сварацца, чаму не могуць жыць у згодзе? Мы вось з Віцькам ужо амаль цэлы год штодзень спатыкаемся і яшчэ ніводненькага разу не пасварыліся. У чым жа справа?..

Падслухаў і запісаў В. Б.